ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

3•2016
САКАВІК

Малюнак Аляксандра ШМІДТА.

**N.B.**

**«Нота бенэ»**

**Звярні ўвагу!**

Без сертыфікацыі тавары не прапушчу!

МЕРКУРЫЙ — бог гандлю

БЕЛАРУСЬ







Малюнкі Міколы ГІРГЕЛЯ.

**Нічыпар ШЭРАНЬКІ**




*Байка*

З разлёту Жолуд стукнуўся аб Пень,
Ляжыць, устаць не можа цэлы дзень.
– Ой, знесла маю шапку з галавы!
Ў траве зусім згубіўся, ледзь жывы.
Ты мне, дзед Пень, падняцца памажы,
А то зальюць аблажныя дажджы.
Пень у адказ:
– Высока ты сядзеў!
Чаму ж уніз, як падаў, не глядзеў?
Усё казырыўся, думаў, што круты,
Цяпер ляжы ў палоне глухаты.
І памятай, што мой магутны лоб
Цябе раструшчыць здатны да вантроб.
Ды новаю зялёнаю вясной
Раскрыўся Жолуд і расточак свой
Уверх пусціў – зялёненькі чубок.
Так неўпрыкметку вымахаў Дубок.
І праз гады над спарахнелым Пнём
Магутны Дуб паўстаў вясновым днём,
А Пень счарнеў, паволі знік пад ім...

Ў час саступайце месца маладым.






Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА
і Аляксандра БАГДАНОВІЧА.



Малюнак Ганны ДЗЮКАВАЙ
і Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Міхась МІРАНОВІЧ**




## Свае рэзоны

Свякроў
З нявесткай размаўляе,
Рэзоны у яе
Свае:
– Чым менш мужчына
Зарабляе,
Тым, значыць,
Меней ён прап'е!

## Недаверлівая

– Ты стала недаверлівай
Звыш меры.
На сходзе быў я,
Чуеш альбо не?
Я сам сабе
Ужо амаль паверыў,
І толькі ты
Не хочаш верыць мне...

## Набраўшыся

– Так, ад віна
Няма дабра, –
Вікенцій з жонкаю
Згаджаўся, –
Ды ці б я замуж
Цябе ўзяў,
Каб перад гэтым
Не набраўся?!



## Характар



Даў Бог характар
Жоначцы маёй...
Хай вас такая доля
Абміне!
Калі бывае
Штосьці не па ёй –
Шпуляе тым, што трапіцца,
Па мне!



## Бура ўлеглася

У ваколіцы
Ціша,
Вецер ліст
Не калыша...
Дома
Бура ўлеглася –
Жонка спаць
Падалася.



# Вялікія жартуюць...

## Сумленныя банкіры

Аднаго разу Артур Конан Дойль дзеля жарту выбраў дванаццаць самых буйных лонданскіх банкіраў, якія мелі рэпутацыю выключна добрасумленных людзей, і адправіў кожнаму з іх па тэлеграме такога зместу: «Усё выявілася. Хавайцеся». На наступны дзень усе дванаццаць банкіраў пакінулі Лондан...

## Байкі

Крылоў быў добрым чалавекам, таму часта хваліў і слабыя творы, толькі каб не пакрыўдзіць аўтара. Раз адзін бяздарны паэт працытаваў ва ўступе да сваёй кнігі станоўчы водзыў байкапісца.

– Бачыш, Іван Андрэевіч, як ён выкарыстаў тваю дабрыню, – сказаў Крылову нехта з яго сяброў. – Цяпер заўсёды будзе спасылацца на тое, што ты хваліш ягоныя творы.

– Не бяда, – спакойна адказаў той. – Усе ж ведаюць, што я пішу байкі.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.





Малюнкі Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

# Вяртанне блуднага бацькі



*Жыццёвая іранеска*

Ігнат у выхадны дзень з самага ранку пачаў завіхацца па гаспадарцы. Назбіралася шмат спраў: трэба было адрамантаваць разетку, укруціць некалькі лямпачак, падфарбаваць касякі дзвярэй. Мужчына любіў працаваць у адзіноце, пры гэтым успамінаць нейкія моманты са свайго жыцця. Так было і зараз. З летуценных развагаў Ігната выцягнула жонка, крануўшы за плячо:

– Клічу цябе, клічу, а ты не чуеш, нібы аглух. Аж напужаў. Вольга, сястра твая, звоніць ужо другі раз.

– Запрацаваўся і ў марах нейкіх лётаю, – збянтэжана засмяяўся мужчына. – Давай сюды тэлефон. Алё, слухаю цябе, Волечка.

– Прывітанне, братка! Няўжо забыўся на сваю любімую сястрыцу? Тыдзень цябе не бачна і не чутна, – весела пралапатала жанчына.

– Вось не трэба! У аўторак заязджаў, мужу твайму прывозіў інструменты, – неяк па-дзіцячы пачаў апраўдвацца Ігнат.

– Ды не пра тое гаворка. У мужа праз тыдзень юбілей, дык вы нічога не плануйце, мы чакаем вас у госці!

– Я памятаю. Ужо нават падарунак яму нагледзелі, – таямніча сказаў Ігнат.

– Выдатна! Усё, цалую, трэба бегчы!

– Бывай! – Ігнат адключыў тэлефон і зноў узяўся за працу.

Як заўсёды пасля сустрэч і размоў з сястрой, якая, дарэчы, жыла амаль па суседстве, на яго твары з'явілася шчаслівая ўсмешка. Ігнат успомніў дзяцінства. Час, калі яму было дзесяць гадоў. Тады раптоўна кудысьці знік іхні бацька. Яны пыталіся ў маці, дзе татка, але тая толькі адмахвалася – маўляў, выправіўся ў кругасветнае падарожжа. Так Ігнат стаў галоўным мужчынам у сям'і, дапамагаў маці, займаўся выхаваннем малодшай сястрычкі. Жылі небагата, але дружна, трымаліся адзін аднаго.

Раптам яго зноў кранула за плячо жонка:

– Там да цябе мужчына нейкі прыйшоў. На вуліцы чакае.

– Што за ён? Можа, з працы хто прыехаў? Добра, зараз выйду.

Гаспадар мазануў яшчэ некалькі разоў пэндзлем па касяку і рушыў на вуліцу.

Каля ганка стаяў статны незнаёмец і ўсміхаўся:

– Сустракай бацьку, сынок! Не пазнаў, ці што?

Ігнат ажно аслупянеў і павольна вымавіў:

– Мужчына, вы, мабыць, памыліліся. Бацькі ў мяне няма.

– Як жа няма, калі я тут. Прыгледзься лепш!

– Не, не веру сваім вачам... Адкуль ты і навошта з'явіўся?

– Навошта? Вы ж з Вольгаю мае крывінкі. Канешне, жыццё так склалася, што выхоўваў вас толькі ў дзяцінстве, але вы заўсёды былі ў маім сэрцы. Нялёгка было мне ўсе гэтыя гады. Вось, пад старасць вырашыў выправіць свае памылкі. Хацеў бы з табой пажыць, унукаў паняньчыць, дапамагаць ва ўсім, – амаль праслязіўся Іван Пятровіч.

– Так склалася жыццё... – ціха паўтарыў Ігнат. – Гэта, безумоўна, добра, што ты хоць зараз вырашыў успомніць пра сваіх дзяцей. Але мы больш за дваццаць гадоў цябе не бачылі, не атрымалі ніводнага віншавання на святы. Я ўжо не кажу пра матэрыяльную дапамогу. Ты выкрасліў нас са свайго жыцця. І цяпер мы чужыя адзін аднаму. Прабач мне за гэтыя словы, але вяртайся туды, адкуль прыехаў.

Бацька на гэта бліснуў злосна вачыма і амаль закрычаў:

– Прагналі мяне адтуль, думаў, што хоць тут прымуць. Тым больш, гэта і мой дом таксама!

– Твой? – засмяяўся Ігнат. – Можа, мы з Вольгаю павінны яшчэ заплаціць грошы за тое, што з тваёй дапамогай на свет з'явіліся? Ідзі адсюль. Размова скончана, няма аніякага жадання з табой гаварыць.

Ігнат нервова плюнуў, зайшоў у хату і зачыніў за сабой дзверы. Нечаканы госць яшчэ некалькі хвілін патаптаўся каля ганка і знік.

Брат адразу ж пазваніў сястры і ўсё расказаў. Тая крыху памаўчала і выдала: «Адчуваю, папсуе ён нам яшчэ жыццё. Дарма я спадзявалася, што ў яго хопіць сумлення ніколі не з'яўляцца ў нашых краях».

Праз тыдзень усе суседзі пры сустрэчы пачалі коса глядзець на Ігната і Вольгу, шаптацца і асуджальна ківаць галовамі. Тыя ніяк не маглі зразумець, што здарылася. Але іх агульная знаёмая расказала: Іван Пятровіч пасяліўся недалёка ад Ігната і распускае плёткі. Маўляў, дзеці ў родны дом не пускаюць – ні кроплі спачування да старога чалавека! Каб устанавіць справядлівасць, ён хоча падаць у суд і адваяваць у сына месца ў доме. Магчыма, будзе патрабаваць, каб дзеці яму аліменты плацілі. Яшчэ і ў газету звярнуўся...

Брат з сястрой пасля такіх навін схапіліся за галовы. Ігнат з горыччу выказаў набалелае:

– Вось табе і родная кроў! Спачатку кінуў сям'ю, а зараз патрабуе, каб яго прынялі, абагрэлі і прытулілі! Не, добра, што маці перад сваёй смерцю пакінула мне ягоны развітальны ліст, дзе напісана,

каб яго не чакалі, бо знайшоў другую жанчыну і будзе цяпер толькі з ёю. Як адчувала, што нешта падобнае можа здарыцца.

Праз тыдзень да Ігната завітала журналістка з мясцовай газеты. Ёй даручылі напісаць артыкул пра дзяцей, якія не далі прытулак роднаму бацьку. Мужчына адразу паказаў дзяўчыне ліст-доказ, а потым расказаў усю праўду. Карэспандэнт уважліва слухала, рабіла пазнакі ў штодзённіку. Калі развіталіся, запэўніла, што паспрабуе вывесці Івана Пятровіча на чыстую ваду.

Так і адбылося. Журналістка завітала ў госці да бацькі Ігната і адразу ў лоб спытала:

– Іван Пятровіч, а ці помніце вы пра ліст, у якім адмаўляецеся ад сям'і і ад дзяцей? Ці сапраўды больш за дваццаць гадоў назад вы зніклі і да гэтай пары ніводнага разу не з'яўляліся ў жыцці сваіх «крывінак»?

– Было. Хлусіць не буду. Але ж я ўсё зразумеў, а яны вось як са мной абышліся... Выгналі і нават слухаць не захацелі!

Журналістка ўсміхнулася і запісала яго словы...

У той жа вечар па вуліцы Ігната папаўзлі чуткі-абвяржэнні святасці Івана Пятровіча.

P.S. Дарэчы, гэта не прыдуманая гісторыя вяртання блуднага бацькі. Яна на самай справе зусім нядаўна адбылася ў Кобрыне. Мы дазволілі сабе толькі змяніць імёны галоўных герояў. А як бы вы павялі сябе на месцы Ігната, Вольгі і Івана Пятровіча? Згадзіцеся, цяжкая тэма для разважанняў, але ў жыцці здараецца featureрознае...

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**












Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.

# Мімаходзь

Калі дыета смачная, чаму б на ёй не сядзець?

Каханню і разводу ўсе ўзросты падыходзяць.

Прап'еш сваю дудку – будзеш скакаць пад чужую.

Кульгаў на дзве нагі і на ўсю галаву.

Будзе, мусіць, сынок кухарам, бо з дзяцінства ўмее добра вешаць лапшу на вушы.

Сяброўства з зялёным зміем пераўтварае ў хамелеона: спачатку чалавек чырванее, потым сінее і зелянее, а пасля ўвогуле робіцца чарнільным.

**Мікола НАВАРЫЧ,**
*г. Мінск.*

## Чаты і дзяўчаты

Горад – гэта вам не хутар,
Там культура, інтэрнэт.
«Сеткай» ён усіх ахутаў,
Апынуўся ў ёй і дзед.

Раз набрыў стары на чаты,
Сам сабе не верыць дзед:
«Ах, якія тут дзяўчаты!
Ці ж такіх убачыш дзе?»

Па начах дзядуля мроіць,
Збрыў вусы і бараду.
Што ні дзень – мяняе строі,
Выпрацоўвае хаду.

Свой кіёк у кут адправіў,
Бабу збагрыў на курорт.
Лінзы дзед у вочы ўставіў,
Каб зручней, каб мець камфорт.

Ля камп'ютара заўзята
Пальцам клавішы дзяўбе,
Рассылае адрасатам
Зманы-весткі пра сябе.

За пяць дзён у трэску высах,
Ціск у скронях пляжыў так,
Што не мыўся, не галіўся –
Зноў зарос, як той лайдак.

Жонка на парозе: «Мілы!»
Стала дзеда шкадаваць.
Дых таму перахапіла,
Бабу згроб – і цалаваць.

Праклінаў дзядуля чаты,
Ды не мог, каб не зірнуць
Хоць разок на тых дзяўчатак,
А інакай – не заснуць...

Высах зноў, не мышцы – драбы,
Праз дзяўчат гаруе дзед.
Вы мужоў пільнуйце, бабы,
Каб не збеглі ў інтэрнэт!

**Рэгіна РЭЎТОВІЧ,**
*г. Дзяржынск.*







Малюнкі Алега ПАПОВА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Васіль ТКАЧОЎ**




*Гумарэска*

Схапіліся неяк паміж сабой два пісьменнікі – Шэранькі і Кволенькі. Ды так, што ледзьве не пабіліся. Першы папракнуў другога, што кнігі ягоныя попытам не карыстаюцца, маўляў, іх ніхто нават у рукі не бярэ, і параіў заняцца якой-небудзь больш карыснай справай. Напрыклад, вырошчваць агуркі на дачных сотках. Такі напад калегі па творчасці, вядома ж, цалкам сапсаваў настрой Кволенькаму, той ледзь не страціў прытомнасць, хапаў ротам паветра, а потым, як толькі крыху ачуняў, пайшоў у наступ:

– Ты што такое гаворыш? Быць не можа! Каго ж тады чытаюць, калі не мяне?

На гэта Шэранькі спакойна і горда заявіў:

– Мяне!

– Цябе? – абурыўся Кволенькі. – А што ты надрукаваў? Падкажы назву хоць адной сваёй кнігі, га?...

Пасля такіх узаемных абраз сябры-калегі сталі ворагамі. І нават чуць адзін пра аднаго нічога не хацелі.

Неўзабаве ў Кволенькага выйшла новая кніга. Адразу ж ён успомніў тую спрэчку з Шэранькім і вырашыў правесці эксперымент, для якога выбраў дзесяць чалавек. «Калі ўжо сябры і знаёмыя не чытаюць мяне, то, мусіць, Шэранькі праўду казаў», – думаў ён, падпісваючы чарговы экзэмпляр. У кожную кнігу пісьменнік клаў цыдулку з просьбай абавязкова падзяліцца сваімі ўражаннямі ад прачытанага.

Год прайшоў, як адзін дзень, аднак ніводнага водгуку небарака не атрымаў.

Кволенькі ўсё зразумеў: ягоную кнігу ніхто нават не пагартаў, раз не заўважыў цыдулку. У той жа дзень гора-пісьменнік вырашыў памірыцца з Шэранькім. Можа, і сапраўды карысней было б агуркі на дачы вырошчваць?

*г. Мінск.*






Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Аляксандра БАГДАНОВІЧА.



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




## Майстар пякучага слова

*Кандрат КРАПІВА (Кандрат Кандратавіч Атраховіч) (1896–1991) – знакавая постаць у гісторыі беларускай сатыры і гумару, якая нязменна застаецца і сімвалам «Вожыка»: унёсак таленавітага творцы ў развіццё калючага выдання наўрад ці можна ацаніць. У 1943–1945 гадах Кандрат Кандратавіч рэдагаваў сатырычную газету-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну», а ў пасляваенныя часы часопіс «Вожык».*

*Літаратурную славу пісьменніку прынеслі байкі, сатырычныя і гумарыстычныя вершы і фельетоны. Плённа працаваў ён і ў камедыйным жанры драматургіі. Яговыя п'есы «Хто смяецца апошнім» (1939), «Мілы чалавек» (1945) і «Брама неўміручасці» (1973) шырокавядомыя не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі. Кандрат Крапіва – аўтар больш чым 20 кніг сатыры і гумару.*

*Чалавек з глыбокай і багатай натурай, Крапіва знешне выглядаў суровым, маўклівым і нават пахмурным, але насамрэч валодаў сакрэтам і ўмеў рассмяшыць іншых. Нават у самых складаных сітуацыях ён не губляў пачуцця гумару.*

*Трапнае слова слыннага творцы пякло і яшчэ доўга будзе пячы падхалімаў, здраднікаў, ашуканцаў, двурушнікаў і іншых прайдзісветаў.*

*Адзначаючы 120-гадовы юбілей з дня нараджэння Кандрата Кандратавіча, згадаем адну з яговых баек, у якой фігуруе наш калючы прататып.*



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

**Кандрат КРАПІВА**

### Дзіця, Вожык і Змяя

*Байка*

Выходным днём у саснячку
Жанчына з дзіцянём гуляла,
Лягла пад сонца, задрамала,
А небяспека напаткала
Яе маленькую дачку.
З узгорка ўніз вядзе сцяжынка, –
Ідзе па ёй мая Дзяўчынка
Ды ловіць матылькі.
А гэтым часам пры сасонцы
Гадзюка грэецца на сонцы, –
Блішчыць на ёй узор лускі.
Дзяўчынка рада: «Цаца! Цаца!»
І хоча ўжо рукой хапіць,
А «цаца» пачала звівацца,
Лісліва, ціхенька сіпіць:
– Хачу, дзіця, з табой
пасябравацца:
Цябе я ласкава, пяшчотна абаўю,
Пазнаеш ты любоў маю.
Аж раптам тут ля самых ножак
Зафыркаў злосна Вожык
І кінуўся адважна на Змяю.
Змяя ўзвілася бліскавіцай,
Зубамі хоча ўпіцца,
Мільгае промнямі лускі,
А ён, узброены іголкай,
Зубоў змяіных не баіцца
І рве Гадзюку на кускі.
Дзяўчынка сціснула ад гневу
кулачкі,
Крычыць на Вожыка:
– Пачвара, недарэка!
Ты цацу сапсаваў маю!
За гэта я цябе наб'ю.
Ты – бека!
– Дзіця, – адказвае ёй Вожык, –
Хоць бека я, калючы, непрыгожы,
Але ж я знішчыў смерць тваю.
Як падрасцеш, ацэніш ты паслугу
І мне падзякуеш, як другу.

Дзіця дзіцём – і розум у яго такі.
Я не дзяцей тут меў на мэце,
А ёсць яшчэ дарослыя дзядзькі
На свеце,
Што і змяю гатовы прытуліць,
Якая іх умее пахваліць.
Такім мілей ліслівы гад паўзучы,
Чым верны друг, хоць і калючы.

*1950 г.*







Малюнак Аляксея ПАПРОЦКАГА, 1984 г.




Малюнак Міколы ШЫШЛОВА, 1987 г.



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА, 2002 г.




Малюнак Анатоля ГАРМАЗЫ, 1995 г.




Малюнак Пятра КОЗІЧА, 1989 г.




*З натуры*

У наш сельскі савет аднойчы прыехаў начальнік з райцэнтра. Зайшоў у кабінет да сакратара і з парога пачаў ушчуваць:

– Што ж ты тут сядзіш, штаны праціраеш? Час заняцца людскімі праблемамі.

Мужчыны выйшлі на вясковую вуліцу і накіраваліся да бліжэйшай хаты. Старая Марыля, як толькі ўбачыла высокіх гасцей, замітусілася, выцерла фартухом табурэткі, паправіла абрус на стале.

– Праходзьце, праходзьце, даражэнькія, сядайце! – ветліва запрасіла і тут жа знікла ў каморы, адкуль выйшла з колцам добра падсушанай каўбасы, ладным кавалкам сала ды бутэлькай гарэлкі.

– Калі ласка, частуйцеся, вы ж у мяне першы раз у хаце!

Сакратар нерашуча перамінаўся з нагі на нагу, але неўзабаве ўзяў прыклад з начальніка, які ўжо дапамагаў гаспадыні рэзаць хлеб.

Выпілі па кілішку, закусілі. Начальнік палагаднеў.

– Скажы, маці, – звярнуўся ён да Марылі, – якія праблемы цябе хвалююць?

– Ды сена трэба нарыхтаваць для кароўкі.

– Так, пішы «сена», – загадаў сакратару гарадскі госць, але ў той жа момант удакладніў:

– А сама накасіць не зможаш?

– Эх, які ўжо з мяне, старой, касец?

– Ну, добра. Яшчэ што?

– Без дроў, сынок, засталася, зіма на носе.

– Выкрэслівай «сена» і пішы «дровы». Але ж тут таксама саманарыхтоўка... Можа, у чым іншым маеш патрэбу?

– Хата цячэ, не магу дапрасіцца, каб дах адрамантавалі.

Ад выпітага вочы ў начальніка зрабіліся масленымі. Ён доўга глядзеў на Марылю і ўрэшце глыбакадумна заявіў:

– Шукай, бабуля, гаспадара. Усе гэтыя праблемы без яго не вырашыць! А калі якое пытанне ўзнікне, забягай у сельсавет – дапаможам. Ну, а пакуль бывай, трэба нам яшчэ астатнія хаты абысці. Шмат патрэб у людзей, шмат!..

З гэтымі словамі раённы начальнік знік за дзвярыма. За ім, трохі ніякавата кіўнуўшы на развітанне галавой, пайшоў з хаты і сакратар.

**Тамара СЕНКЕВІЧ,**
*г. Навагрудак.*






Малюнак Алега ПАПОВА.



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.







Малюнкі Алега ГУЦОЛА.

# Мініяцюры



Сябе ён лічыць пупам свету
І не шукае падабенства,
Бо падхалімамі сагрэты,
Зацалаваны быў з маленства.

Але такому трэба смела
Сказаць у вочы і з дакорам,
Што ён – нібыта частка цела,
Назваць якую проста сорам...




* * *

Рабочы некалькі разоў
Чытаў аб'яву ды дзівіўся:
«Завод па вырабе тазоў
Уласным вырабам накрыўся».



* * *

І кепска на душы, і сэрца б'ецца,
І ў галаве заўсёды мітусня.
Ніколі не сядзеў, а ўсё здаецца,
Што на свабодзе не пражыў і дня.



* * *

Прыроду, брат, не перапрэш.
Я так кажу, бо маю вопыт.
Як ні кармі ваўка, але ж
Не вырасце ніколі хобат.



* * *

«Скажыце, выпадкова тут да вас
Без костак рыбу не завезлі часам?»
Праз зубы крамнік буркнуў у адказ:
«Прывезлі каўбасу. І ўся без мяса!»



* * *

Такіх людзей я многа бачыў,
Сустрэнеш ледзьве не штодня:
Язык нібыта і сабачы,
А як прыгледзішся – свіння.

**Уладзімір ЦАНУНІН,**
*г. Вілейка.*







## Вітаем «Чаяна» з далёкага Татарстана!

*Ганаровае месца ў кагорце вожыкаўскіх сяброў і пабрацімаў займае часопіс «Чаян». А прадставіць яго вам, шаноўныя чытачы, галоўны рэдактар выдання Рафаэль Халілулаў:*

*– Неяк у Казані абвясцілі конкурс на лепшую ідэю помніка і назву для новай вуліцы. Адзін вясёлы грамадзянін прапанаваў паставіць у сталіцы манумент «Чаяну» і назваць у яго гонар вуліцу. «Гэты часопіс – сапраўдны брэнд нашай рэспублікі, нароўні з Татнафтай, КамАЗам і «Рубінам», – пісаў ён. – Мару, каб на стале кожнага татарстанца былі чай, чак-чак і «Чаян»!» На жаль, крэатыўная ідэя не знайшла падтрымкі ў чыноўнікаў. А шкада!*

*Тым не менш, «Чаян» – сапраўдная легенда, жывая гісторыя, выданне, вядомае кожнаму жыхару рэспублікі. «Вы ствараеце патрэбны народу часопіс. Чытаем «Чаян» усім мястэчкам ад першай старонкі да апошняй», – напісаў у рэдакцыю жыхар Вялікіх Кайбіц Радзік Гірфанаў. «Чытаю «Чаян» і маю ад гэтага карысць несумненную», – прызнаваўся першы Прэзідэнт Татарстана Мінтымер Шайміеў. Ці гэта не ўсенароднае прызнанне!*

*Калі сур'ёзна, то «Чаян» – адно з найстарэйшых выданняў не толькі рэспублікі, але і краіны. Адзіны ў свеце гумарыстычны часопіс на татарскай мове выходзіць з 1923 года. У сваёй творчасці чаяністы абапіраюцца на багатыя традыцыі народнага гумару, дэмакратычнай і сатырычнай журналістыкі, закладзеныя яшчэ вялікім татарскім паэтам Габдулой Тукаем.*

*За дзевяць дзесяцігоддзяў «Чаян» адлюстраваў усе павароты нашай непрадказальнай гісторыі. Якіх толькі персанажаў ні сустрэнеш у нумарах мінулых гадоў! У розны час у клюшні «Чаяна» траплялі буржуі і кулакі, стылягі і самагоншчыкі, фарцоўшчыкі і бюракраты. Пры ўсёй ідэалагізаванасці (а часопіс доўгія гады быў органам Татарскага абкама КПСС) «скарпіёнавыя браты» заўсёды прытрымліваліся галоўнага прынцыпу: смеючыся з недасканаласці чалавека, выкрываючы заганы грамадства, паляпшаць норавы, даваць чытачу надзею на дабро і справядлівасць. І сёння невялікі калектыў часопіса і яго шматлікія аўтары сваёй гумарыстычнай працай пацвярджаюць гэта.*

**chayan.su**




Малюнак Уладзіміра ІЖБОЛДЗІНА.




Малюнак Ільдуса АЗІМАВА.

**Дзмітрый ФІЛІПАЎ**

## Кніжнік

У апошні час я паэзію палюбіў. Вось, напрыклад, вершы Аляксандра Сяргеевіча Лермантава. «Я достаю из широких штанин...» Якая сіла слова! Дэкламую ўдзве гадзіны ночы, а сусед па сценцы грукае, відаць, апладзіруе.

Ці Пушкін Міхаіл Юр'евіч. Як толькі прамоўлю: «Ты жива еще, моя старушка...», адразу ўсе бабулі на лаўчацы галасіць пачынаюць і слёзы хусцінкамі выціраюць... Чароўная сіла мастацтва!

Я і сам да прыгожага неабыякавы. Хоць і працую дворнікам. Разгроб гурбу снегу – тут жа верш прачытаў. Пакалоў лёд – яшчэ адзін узгадаў.... Пасыпаў пясочку і адгарнуў томік Пушкіна, Лермантава або Льва Мікалаевіча Ясеніна.

Кніг жа шмат ля кантэйнераў для смецця валяецца. Як народ інтэрнэт займеў, так і пачаў ад іх пазбаўляцца, хоць у ранейшыя гады па блаце даставаў. У мяне ў капцёрцы цэлая бібліятэка набралася. Вось я і гляджу, што яны панапісвалі... Як быццам ведалі, што гэта ўсё да мяне прыйдзе...




Малюнак Віталя ФЕАКЦІСТАВА.






Малюнкі Ільдара НАФІЕВА.

**Людміла УЛАНАВА**

## Прадчуванні

Так жыць на свеце цяжка мне, сябры,
Чакаю я з усіх бакоў падману.
Як добра зранку – гэта да пары:
Увечары напэўна дрэнна стане.

Не адключылі ні святло, ні газ,
Надвор'е – проста супер! Што за здзекі?
А, ведаю! Буран ідзе на нас!
Паветра нават пахне небяспекай.

Калега кампліментаў цэлы воз
Мне выдаў, а за вочы, пэўна, лае.
Зарплату сёння павялічыў бос,
Відаць, кагось пры гэтым скарачае.

Ў аўтобусе ўсміхнуўся кантралёр,
Народу мала і білецік шчасны.
Не парушае ПДР шафёр...
Дзе ўсё-ткі гадасць? Дзе яна захрасла?

Майму прыходу радая сям'я,
Не падгарэлі смачныя катлеты.
І гэта ўсё, дакладна знаю я,
Якіхсьці непрыемнасцей прыкметы.

Відаць, чакае нас благое штось...
Я сплю. Пад'ём на працу будзе ранні.
Паганы сон мне сніцца. Вось жа! Вось!
Ізноў не падманулі прадчуванні.



Малюнак Віталя ФЕАКЦІСТАВА.

## Зуфар ЗАРЫПАЎ

### На пляжы

Пляж мясцовы – не Карыбы,
І ўсё ж лепей тут, чым дзе:
Няма столькі ў рэчцы рыбы,
Колькі на пяску людзей.

Гэты лёг на санцапёку,
Той хаваецца ў цяньку.
Сеў і я непадалёку,
На купальшчыкаў гляджу.

За буйкі не заплывае
Муж вучоны, кандыдат.
Кажуць, і ў навуцы мае
Нешырокі далягляд.

Граззю Сабірзян кідае
Ў тых, каго лягчэй дастаць.
І на сходзе гэтак, знаю,
Ён прывык крытыкаваць.

Тахір скокнуў без страховак –
Вынырнуў хвілін праз пяць.
Ў апараце ён гандлёвым
Навучыўся так «ныраць».
Глей на дне знайшоў Мяфодзій
І давай яго мясіць:
Жыць з людзьмі не ўмее ў згодзе,
Ваду любіць замуціць.

Захлынуўся, як купаўся,
Ў рэчцы балбатун-Салім:
Рот закрыць не здагадаўся,
Мелі клопату мы з ім.
У ваду Парфір не скача,
А здзяйсняе мацыён.
Рэпутацыю, няйначай,
Падмачыць баіцца ён.

Вось такі надзейны спосаб
Чалавека «раскусіць»:
Днём спякотным трэба проста
Разам з ім на пляж схадзіць!




Малюнак Івана ХАНЦЕМІРАВА.




Малюнак Валерыя ТАРАСЕНКІ.



Малюнак Івана АНЧУКОВА.

## Рафіс ГІЗАТУЛІН

### Крыжаванка

У кабінет дырэктара ўвайшоў вусаты хлопец. Ханан Ханавіч на імгненне падняў галаву і зноў стаў нешта пісаць.

– Добры дзень, – сказаў наведвальнік. – Я чуў, што вам шафёр патрэбен...

– Пачакай, – адказаў Ханан Ханавіч. – Зараз... Та-ак... Віно, пяць літар. «Партвейн»? Не, тут восем...

Хлопец ажывіўся:

– Можа, «Агдам»?

– А-г-д-а-м... Глядзі ты, правільна, – згадзіўся дырэктар. – А на літару «эр» віно не ведаеш? Сем літар...

– «Рыслінг»?

– Падыходзіць! А з дзевяці літар не падкажаш? Таксама сухое. Апошняя – «і».

– Ну, тут і думаць няма чаго: «Ркацытэлі».

Хлопец зазірнуў у крыжаванку праз плячо дырэктара і стаў вадзіць пальцам па клетках.

– Трэцяе па гарызанталі – «Вермут», сёмае па вертыкалі – «Хванчкара»... Восьмае – «Санцадар»...

– Малайчына, – сказаў Ханан Ханавіч. – Можаш ісці.

– Куды? – не зразумеў хлопец. – Я чуў, вы шафёра шукалі...

– Шукаў, – уздыхнуў дырэктар. Ды разумееш, мне такі шафёр патрэбен, каб гэтую крыжаванку разгадаць не мог...

**Пераклады з рускай Веранікі МАНДЗІК.**




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА
і Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Ганны ДЗЮКАВАЙ
і Андрэя СІДАРЭЙКІ.

**Віктар ЛОЎГАЧ**



## Гасцінцы для маці



*Іранеска*

Начальнік цэха металаапрацоўчага завода Адам Смактуха стаяў у гастраноме і задумення скроб патыліцу. Ён намерыўся ў вёску да маці і выбіраў, якія гасцінцы ёй можна купіць. Думкі вірыліся ў ягонай галаве: «Гэта ж мы больш за год не бачыліся! Трэба прывезці нешта асаблівае. Можа, персікаў ці апельсінаў кілаграмы з два купіць? Ды слівы нашыя смачнейшыя за заморскую садавіну. Ці вунь тых прыгожых пернікаў? Толькі маці і не такое ўмее пячы. А калі цукерак узяць самых дарагіх – з каньяком? Ды не, не адчуе яна смаку, не звыклая да такога. Акрамя карамелек-падушачак нічога і не каштавала нават. Мо бублікаў ці сушак прыхапіць? Але ж не ў яе гадах іх жаваць, хай лепей пабераджэ зубы».

Адам некалькі разоў прайшоў уздоўж паліц з прадуктамі. Неўзабаве яго позірк спыніўся на імпартных ласунках. «Вось чым я яе здзіўлю! Ды толькі не спадабаюцца маці гэтыя шакаладныя батончыкі, я амаль упэўнены... Але чаму я тут увогуле мітушуся, галаву ламаю? Навошта ёй тыя гасцінцы? Лепшы падарунак для маці – калі я прыеду!» – з гэтымі думкамі начальнік цэха, важна расправіўшы плечы, накіраваўся да выхаду.

Чакай, матуля, сыночка ў госці!

*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




Выдавец – сокавыціскалка.
Грабянец – злодзей.
Дармовы – паліглот.
Дурасліўка – настойка са сліў.
Здраўніца –доктарка.
Кладка – курыца.
Падручнік – мыліца.
Працяжнік – паравоз.
Студзень – дзень студэнта.
Студня – ВНУ.
Ступа – танец.

**Даслала**
**Ганна ЧАРНУШЭВІЧ,**
*Слуцкі раён,*
*в. Замосце.*




Дзяўчына пытаецца ў свайго каханага:

– Любы, ты будзеш мне верным мужам, калі мы ажэнімся?

– Канечне, – адказвае той.

– А калі я стану тоўстай, ты ўсё роўна мяне не кінеш?

– Не. Толькі карміць цябе перастану, – крыху падумаўшы, прамармытаў жаніх.

– Бяры прыклад з мяне, – гаворыць маці дачушцы. – Я ўжо дваццаць гадоў замужам і ўвесь час кахаю аднаго чалавека.

– Уяўляю, які будзе скандал, калі пра гэта даведаецца бацька, – адказала на гэта дзяўчынка.

**Тамара СЕНКЕВІЧ,**
*г. Навагрудак.*







Малюнкі Аляксандра ПЯТРОВА.




**Шаноўны сябра Вожык!**

У гэтым месяцы мне давялося шмат пабегаць у пошуку падарунка для жонкі на 8 Сакавіка. Абабіўшы парогі не адной крамы, я спыніўся ў касметычным аддзеле ўнівермага, дзе набыў цудоўны набор для душа: да геляў і шампуняў прыкладаўся яшчэ і плюшавы мішка. Пасля ўжо таго, як свята мінула, у адным з будынкаў на сталічнай вуліцы Захарава я наткнуўся на вось такі своеасаблівы набор для ванны. Я пачаў разважаць і прыйшоў да высновы, што ў гаспадарцы падобная рэч была б надзвычай карыснай, калі б яе магчыма было падключаць да звычайнага крана. Асабліва летам на дачы. І агарод зручна паліць, і машыну памыць, і самому спаласнуцца не грэх. Чым не вынаходніцтва? Але вярнуўшыся дадому, умомант забыўся на гэтыя інжынерныя прыдумкі. Бо каханую маю больш шчаслівай зробіць звычайная плюшавая цацка, чымся такі шматфункцыянальны пажарны рукаў.

**Уладзіслаў ЖУК,**
*г. Мінск.*







**Мае прывітанні, дружа Вожык!**

Як чалавек уважлівы і прынцыповы, я маю сталую звычку правяраць на харчовых таварах тэрмін захоўвання. Асабліва гэта тычыцца малочных прадуктаў: купляю іх толькі тады, калі мяне задавальняе дата на ўпакоўцы. Але нядаўна ў самай звычайнай прадуктовай краме я набыў неверагодны прадукт — смятану, якая не можа сапсавацца. Ну, як яна можа скіснуць, калі зрабіць ёй гэта трэба 30-га лютага? Хоць і карцела праверыць праўдзівасць надпісу на ўпакоўцы, але выбар я зрабіў на карысць больш рэальных прадуктаў.

Аднак суседка прымусіла мяне крышачку паверыць у існаванне такіх дат. Пачуўшы гісторыю пра смятану, яна паказала вось такую пячатку ў сваім пашпарце. Я, канешне, ведаў, што многія ездзяць перад Новым годам нешта купіць у суседнія краіны, але каб у такі дзень... Можа, у Літве ўсё па-іншаму? Шчыра прызнацца, я зусім заблытаўся. Цяпер хвалююся: а раптам зарплату таксама 32-га пачнуць плаціць?..

**Барыс КРУПЕНЬКА,**
*г. Жодзіна.*



# Прыдумкі ад вясёлай кумкі

* * *

Добраму чалавечку ўтульна і ў запечку.

* * *

Хто ў працы добра не пацее,
Ніколі не пабагацее.

* * *

Як абыходзіцца з жанчынамі так-сяк,
Яны ў каханні паступова страцяць смак.

* * *

Каб маладымі заставацца,
Часцей належыць цалавацца.

* * *

Сям'ёю жыць — патрэбны ўменне,
Каханне, вопыт і цярпенне.

* * *

Трэба нам лічыцца з часам:
У гадоў няма запасу.

* * *

З уважлівым ды верным мужам
Не страшныя любыя сцюжы.

* * *

Калі пазяхаць, сумна ў столь паглядаць,
Тады жаніха можна не прычакаць.



**Даслала Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*

**Людміле ЮШЫНАЙ — 75!**

Рэдакцыя часопіса «Вожык» сардэчна віншуе Людмілу Іванаўну з 75-годдзем і жадае моцнага здароўя, пазітыўнага настрою і творчага натхнення на доўгія гады!



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Аляксандра БАГДАНОВІЧА.

**Мікола МАЛЯЎКА**

## Здагадка

У музеі краязнаўчым
Экспанатаў розных шмат.
І партрэты продкаў бачу,
І калекцый рэдкіх клад.

Праз адкрыцці і знаходкі
Адчуваю дух вякоў –
І вачэй не зводжу з продкаў,
Як з бліжэйшых сваякоў.

Родны свет!.. І не адразу
Зразумеў, чаму пільней
Маладыя час ад часу
Паглядаюць на мяне.

Ды аднак жа не журуся,
Хоць здагадцы і не рад:
Я і сам ужо гляджуся,
Як музейны экспанат.

*г. Мінск.*



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Калі мужчына перастае кожны дзень галіцца, мяняць шкарпэткі, прасіць прабачэння і казаць кампліменты, можна супакоіцца: цяпер ён твой!

* * *

Матылі ў жываце, прусакі ў галаве, на душы кошкі... Як пракарміць увесь гэты заапарк?




* * *

Тлумачыла даішніку, што ўчора была ў іншых туфлях, таму правы засталіся ў іншай сумцы. Мужчынская логіка разляцелася на кавалкі...

* * *

– Чым скончылася вашая сварка з жонкай?
– Прыпаўзла да мяне на каленях!
– І што сказала?
– Вылазь з-пад ложка, я супакоілася!

* * *

Толькі 1 працэнт насельніцтва лічыць, што цэтлік на вопратцы служыць для таго, каб даведацца, як яе даглядаць: мыць, прасаваць і г. д. Астатнія 99 працэнтаў вызначаюць па ім, дзе зад, а дзе перад.






* * *

Размова ў аптэцы.

– Бабулькі сёння так шмат сардэчных лекаў бяруць. Напэўна, магнітныя буры? – цікавіцца ў старэйшага калегі малады правізар.

– Ды не, за кватэру рахункі атрымалі... – адказвае дасведчаны фармацэўт.

* * *

У нас на працы ўвялі штогадовую праверку ў нарколага і псіхіятра. Мабыць, падазраюць, што нармальныя і цвярозыя людзі за такую зарплату працаваць не будуць.



## Вясёлая пошта




### Полечка

Танцавалі полечку бабулі,
Стукалі абцасы аб падлогу.
А дзяды, як музыку пачулі,
Тут жа ў хату збочылі з дарогі.

Рукі разляталіся, як птушкі,
У вачах іскрыліся смяшынкі,
Зіхацелі завушніцы ў вушках,
Ў танцы долу падалі хусцінкі.

Гляньце: не бабулькі –
маладзіцы,
Не дзяды, а зграбныя мужчыны!
Скачуць польку – мільгацяць
спадніцы,
Паскідалі кажухі з аўчыны.

Ўраз яны пра свой узрост забылі
І забылі пра сівыя скроні.
Полечку вясёлую кружылі
І з азартам пляскалі ў далоні.

**Валянціна БАБКО-ЛЯШКЕВІЧ,**
*Салігорскі раён,*
*в. Радкава.*






Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА
і Андрэя СІДАРЭЙКІ.

### Падарунак

Асёл аднойчы запрасіў
Ільва на імяніны.
Той шчодры быў і падарыў
Мех вэнджанай каніны.

Паселі госці ўсе за стол,
Квас налівалі пенны...
Збянтэжыўся адзін Асёл,
Бо есць ён толькі сена.

**Мікола САЛАЎЦОЎ,**
*г. Чавусы.*

### Прагнозы і метамарфозы

Тэма вечная, паверце,
Пра надвор'е на планеце.
Без прагнозу – як без хлеба:
Нам дакладна ведаць трэба,
Дзе чакаюцца ападкі,
З хваляваннямі ці гладкі
Фон геамагнітны будзе,
Які цiск адчуюць людзі.
Суха, ветрана ці ціха –
Зможам мы пазбыцца ліха!
Праўда, часам той прагноз
Выклікае смех да слёз.
Абяцаюць навальніцу –
Сонца з раніцы іскрыцца.
Скажуць: «Сонечны дзянёк» –
Дождж не пусціць за парог.
Памыляюцца здаўна,
Ды не іхняя віна:
Больш капрызаў год ад году
Дорыць шчодрая прырода.
Ўсё ж, пакуль існуе свет,
Хоча ведаць фін і швед,
Хоць прыблізна, хоць намёк,
Якім выдасца дзянёк.
А сіноптыкаў задача –
Навучыцца лепш прадбачыць,
Каб сюрпрызы ад планеты
Не рабілі шкоды свету.

**Святлана АГЕЯВЕЦ,**
*Пружанскі раён,*
*г. п. Ружаны.*

## Грашовыя рэпрадукцыі




Шэдэўры знакамітых мастакоў ці скульптараў часам ацэньваюцца вельмі дорага. І зразумела, што простыя людзі не могуць іх набыць. Іншая справа — рэпрадукцыі. Такія «падманкі» і каштуюць дастаткова танна, і знайсці іх нескладана. Ёсць нават мастакі, якія на гэтым добра зарабляюць.

Мабыць, менавіта з іх вырашыла ўзяць прыклад жыхарка г.п. Зарэчча Рэчыцкага раёна. Але маляваць яна не ўмела, таму ў якасці дапаможнага сродку абрала тэхніку — каляровы прынтар. А падрабляць вырашыла не якія-небудзь карціны, а грошы. Затрымалі фальшываманетчыцу, калі яна спрабавала разлічыцца стотысячнай «рэпрадукцыяй» у магазіне. Крыху пазней у яе доме міліцыянеры знайшлі несапраўдныя грошы наміналам 50, 100, 200 тысяч рублёў і нават некалькі 100-доларавых паперак.

Узбуджана крымінальная справа. Хто ведае, можа, давядзецца гэтай жанчыне асвойваць навуку сапраўднага жывапісу, але ўжо за кратамі.

г. Гомель




## Прыемнае, карыснае і законнае

Адзін мужчына вельмі любіў падвозіць людзей на сваім аўтамабілі. А чаму не? Робіш дабро чалавеку, і ў такі момант самому на душы святлей становіцца. Але аднойчы пасажыр прапанаваў расплаціцца за паездку. Гамяльчанін аднекваўся, ды ўсё ж такі згадзіўся. І тут у ягонай галаве ўзнікла думка: чаму б не сумяшчаць прыемнае з карысным і не пачаць зарабляць на сваім хобі грошы?




Так мужчына стаў нелегальным таксістам. Чамусьці ён зусім не падумаў, што патрэбна зарэгістравацца ў якасці індывідуальнага прадпрымальніка і атрымаць неабходную ліцэнзію. У выніку быў затрыманы інспекцыяй Міністэрства па падатках і зборах сумесна з супрацоўнікамі міліцыі Чыгуначнага РАУС горада Гомеля.

Машыну коштам 110 мільёнаў рублёў канфіскавалі, да таго ж нелегалу давядзецца заплаціць штраф у памеры да 21 мільёна рублёў. Пасля гэтага, мяркуем, ён пачне сумяшчаць прыемнае не толькі з карысным, але і з законным.

## Зняволены «дзед»

Кожны, хто служыў у арміі, ведае такі ланцужок: «дух» — «слон» — «дзед» — «дэмбель». Па гэтай лесвіцы праходзіць кожны салдат. І, як у любой іерархіі, часта здараецца, што той, хто стаіць на прыступку вышэй, здзекуецца з ніжэйшых па статусе.

Вось так адзін «дзед» з гомельскай вайсковай часці і вырашыў паказаць, хто ў казарме галоўны. Падняў маладых салдат ноччу і прымусіў стаяць каля сваіх ложкаў. А калі смелы «дух» адмовіўся выконваць бязглузды загад, сяржант пусціў у ход кулакі.

У ходзе разбіральніцтваў яго прыгаварылі да двух гадоў зняволення і пазбавілі звання. Цікава, якую прыступку хлопец будзе займаць у турэмнай іерархіі?



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.




Малюнак Ганны ДЗЮКАВАЙ.




## Падказаў

— І дзе была мая галава, калі я пагадзілася выйсці за цябе замуж? — усклікнула нечым раззлаваная жонка.

— Не ведаеш, дзе? Яна ляжала на маіх грудзях, а я ў гэты час абяцаў табе залатыя горы, малочныя рэкі і кісельныя берагі, — падказаў знаходлівы муж.



## Хтосьці губляе, а хтосьці знаходзіць

Размова дзвюх сябровак.

— Парай, дзе мне знайсці добрага мужа?

— Спачатку трэба, каб яго нехта згубіў, але такое здараецца рэдка...




## Смачная рыбка

— Так люблю спажываць марскую чырвоную рыбку, якая да таго ж яшчэ танна каштуе, — хваліцца Пятрок.



— А як яна называецца? Я таксама хачу пакаштаваць, — цікавіцца Іван.

— Ды ўсе ведаюць. Кілька ў тамаце...




## Цікаўны

— Ты, Паўлік, вялікі ўжо. Табе пяты годзік пайшоў, — кажа бабуля Параска.

— А калі той годзік назад прыйдзе? — спытаў малы.

— Назад ён ужо ніколі не вернецца, — сказала бабуля і ўздыхнула.



**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*







Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




З далёкай Чукоткі кабета
Ўжывала сто грам за абедам.
Гарэлку з сялёдкі
Штодня гнала цётка
Па нейкім рэцэпце сакрэтным.



* * *

Непалец адзін і непалка
Кахаліся бурна і палка.
У час цалавання
Агеньчык кахання
Прыгожым быў, нібы фіялка.

* * *

Суданца, ўраджэнца Хартума,
Даўно непакоіла дума:
Вось бы вечарочкам
Знайсці кашалёчак
З грашыма на круглую суму!

* * *

Настаўніца з Новай Гвінеі
Вучыць папуасаў умее:
То пугай, то палкай,
А то і качалкай,
Глядзіш – і дзіця разумнее.

* * *

У кралі прыгожай з Фарэраў
Шмат розных было кавалераў:
З-пад Альпаў, Карпатаў,
З краін-эміратаў
І нават аж з-пад Кардыльераў.



* * *

Ля фота сімпотнае тайкі
Мужчыны ўвесь час ставяць
лайкі.
Ды ці ж ім вядома,
Што таечка дома –
Узор беспадобнай гультайкі.



* * *

А нейкі галандзец з Арубы,
Што дзесьці, здаецца, ля Кубы,
Агню не баяўся,
Вадой абліваўся
І лазіў у медныя трубы.



* * *

Шчаслівы грузін з Кутаісі
Хацеў ажаніцца з Марысяй,
Ды гэтая панна
Парушыла планы
І замуж пайшла у Тбілісі.



* * *

Заўзяты рыбак з Ганалулу
Злавіў ля Гаваяў акулу.
Склаў зубы ў пакунак,
Паслаў падарунак
Для цешчы сваёй з Барнаула.



**Ігар ПРАКАПОВІЧ,**
*г. Паставы.*

Малюнкі Ганны ПРАКАПОВІЧ, студэнткі 3-га курса БНТУ.

**Лімэрык** – верш-пяцірадковік з рыфмоўкай ААББА, у якім абыгрываецца нейкая бязглуздзіца. Сюжэт будуецца прыкладна так: у першым радку гаворыцца, хто і адкуль, у другім – што зрабіў, а далей – што з гэтага атрымалася. Прапануўваем і вам, шаноўныя чытачы, паспрабаваць скласці свае лімэрыкі, выкарыстоўваючы назвы беларускіх гарадоў. Лепшыя з іх абавязкова трапяць на старонкі «Вожыка»!

# Старое на новы лад

Лепш позна, чым ніколі... атрымаць зарплату.

Пачнеш ленавацца – будзеш з торбай валачыцца. Ды падатак плаціць за дармаедства.

Шукай, дык знойдзеш. Толькі не кажы, дзе.

Лепш верабей у руцэ, як голуб на страсе. А яшчэ лепш – певень у чыгунку.

З ваўкамі жыць – па-воўчы выць. Заўсёды карысна ведаць мясцовы дыялект!

Розум – найлепшае багацце. Але рахунак у банку яшчэ нікому не перашкаджаў.

Смех без прычыны – знак дурачыны? Ды не, гэта «Вожык» прыйшоў!

**Даслала Ганна ЧАРНУШЭВІЧ,**
*Слуцкі раён,*
*в. Замосце.*

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 3 (1530), 2016 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.

Рэдакцыйная калегія: Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zvyazda.minsk.by.

Паштовы адрас: 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: vozhyk@zviazda.ru; a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 11.03.2016. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,50. Тыраж 1294 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск.






Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Аляксандра БАГДАНОВІЧА.

# Смешныя карціны з сусветнай павуціны















# «Вожыкаўскі плакат»

Малюнак Алега ГУЦОЛА.




***ЧЫТАЙЦЕ! У наступным нумары:***

Чым багата хата?

Хто як жартуе на першага красавіка?

Як выглядае цешчын дэсерт?

На які бытавы прыбор можна лавіць рыбу?

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844,**

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**



**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2016 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 30600 рублёў,
індэкс 01380, цана 24400 рублёў,
індэкс 748442, цана 88800 рублёў,
індэкс 01381, цана 70000 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**




